

# Тут жыў Багдановіч





(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Дзяліўся сваімі перажываннямі са Змітраком Бядулем.

Напэўна, што было й так. Але адзінае можна сцвярджаць пэўна — тут у 1916 — 1917 гг. жыў і працаваў Максім Багдановіч, адсюль з Беларусі ён паехаў у Ялту.

Дзякуючы намаганням супрацоўнікаў музея Максіма Багдановіча, што ў Траецкім прадмесці, у доме, дзе паўгода жыў Паэт, будзе філіял літаратурнага музея. Па задуме арганізатараў, гэта будзе «Беларуская хатка» накшталт тае, што была ў Менску ў пачатку стагоддзя. Цяпер тут мяркуецца ладзіць фальклорныя канцэрты, паэтычныя салоны, сустрэчы з беларускімі бардамі. З цягам часу хатка можа стаць цэнтрам культуры, якую наведаць — за гонар адукаванаму чалавеку, чалавеку, што лічыць сябе прыхільнікам беларускіх традыцый і гісторыі. Прынамсі, гэта справа недалёкай будучыні.

А ўжо зараз наведвальнікі музея могуць акрамя знаёмства з экспазіцыяй, прысвечанай З. Бядулю, А. Смолічу, Ядвігіну Ш., У. Галубку, С. Рак-Міхайлоўскаму, У. Фальскаму, А. Уласаву, Л. Сівіцкай (Зосьцы Верас) і іншым заснавальнікам «Беларускае хаткі», паглядзець прадстаўленні старажытнага лялечнага тэатра «Батлейка». Перад гледачом праходзіць шэраг персанажаў народнага тэатра, у «Батлейцы» жывуць дабро і зло, жаль і радасць... А яшчэ кажуць, што «батлейка, як добрая гарэлка — каго хочаш развесяліць». Відовішча тут ідзе па калейцы — адно за адным. Сюжэт мяняе сюжэт, і тым самым выліваецца ў адну дзею.

А першыя наведвальнікі філіяла музея М. Багдановіча на вуліцы Рабкораўскай паспелі ўжо пабачыць гэтае. Бо 25 чэрвеня адбылося адкрыццё хаткі-музея. На ім выступілі дырэктар музея ў Траецкім Алесь Бяляцкі, загадчык філіі Эдуард Акулін, супрацоўнік музея, цяперашні батлеечнік Сяржук Вітушка, пісьменнік Максім Лужанін... Як быццам згаварыўшыся, Бялецкі і Лужанін зазначылі, што з адкрыццём гэтае філіі сціраецца яшчэ адна белая пляма нашае гісторыі, сціраецца яшчэ адна рыса між мінулым і цяперашнім. Усе пачулі слаўныя купальскія песні ў выкананні фальклорнага калектыву Уладзіміра Берберава. Час паяднання мінуўшчыны і сучаснасці — старажытныя песні над заасфальтаванаю зямлёю.

А ў невялічкае бібліятэчцы беларускае літаратуры на эміграцыі — будзе ў хатцы й такая — вы зможаце пазнаёміцца з аўтарамі, якія малавядомыя на Беларусі: Н. Арсеннева, А. Салавей, А. Адамовіч, Я. Юхнавец...

...Мы пайшлі ў хуткаплыннасць гарадской вуліцы. А ў мемарыяльным пакоі так і застаўся ложак чакаць Максіма, чакаюць яго кнігі, налітая гарбата... Як сказаў Э. Акулін, «аура Багдановіча, напэўна, вернецца сюды». Людцы, прыходзьце да Паэта.

**Уладзімір ПУЧЫНСКІ.**

**На здымках:** «Беларуская хатка»; выступае народны пісьменнік Максім Лужанін; якое свята без песень і музыкі?

**Фота Сяргея ПЛЫТКЕВІЧА.**

# Программа телепередач

## Пятница, 28 июня

**Программа БТ**

**9.35.** Документальный фильм «Джунгли».
**10.20.** «Антарктическая повесть». 3-я серия.
**11.30.** Ленинградская студия документальных фильмов показывает...
**16.30.** «Капитан Соври-Голова». 2-я серия.
**17.35.** «Минут приятных встреча». Фильм-концерт.
**18.00.** Документальные фильмы.
**19.00.** Панорама.
**19.30.** Наш комментарий.
**19.35.** Обратная связь. По материалам почты редакции общественно-политических программ.
**20.20.** Персональные ЭВМ сегодня и завтра.
**20.40.** Реклама.
**20.45.** Колыбельная.
**21.00.** Документальные фильмы.
**21.45.** На сессии Верховного Совета БССР.

**Первая общесоюзная программа**

**6.30.** Утро.
**8.00.** «Морской волк». 4-я серия.
**10.15.** ...До 16 и старше.
**11.00.** К. Хачатурян. Концерт для виолончели с оркестром.
**11.30.** Документальные фильмы.
**12.00.** ТСН.
**12.15.** Инновация.
**12.30.** Маппет-Шоу. Многосерийный кукольный фильм-концерт (Великобритания). 1-я, 2-я серии.
**13.20.** «Дорога длиною в 150 лет». Об актерской династии Садовских.
**14.30.** Концерт русского хореографического и песенного фольклора.
**15.00.** ТСН.
**15.15.** «Осенние утренники». Художественный фильм. 2-я серия.
**16.25.** Мир увлеченных. «Внимание, снимаю!»
**16.40.** «Кортик». 3-я серия.
**17.50.** Мама, папа и я.
**18.20.** Мультфильм.
**18.30.** ТСН.
**18.45.** «Прямой разговор». Семь дней из жизни президента республики. А. Акаев (Киргизстан).
**19.30.** Эстрадная программа.
**19.45.** «Морской волк». 4-я серия.
**21.00.** Время.
**21.40.** Актуальное интервью.
**21.55.** ВиД представляет: «Поле чудес», «Музобоз», «Дело», «Шоу-биржа», МТВ. В перерыве (0.30) — ТСН.
**1.30.** «Дом у дороги». Фильм-балет.
**2.10.** «Морской волк». 4-я серия.

**Вторая общесоюзная программа**

**7.00.** Утро делового человека.
**8.00.** Гимнастика.
**8.20.** Мультфильм.
**17.00.** Собеседник. Интервью с актером Оболенским. Документальный фильм.
**17.45.** «Неизвестное золото». Документальный фильм.
**18.45.** Деловое интервью.
**19.00.** Теннис. Уимблдонский турнир.
**20.00.** Вести.
**20.15.** Спокойной ночи, малыши!
**20.30.** «Встреча». Художница Л. Беспальчей.
**21.00.** Время.
**21.40.** На сессии Верховного Совета СССР.
**22.25.** Коллаж.
**22.30.** На сессии Верховного Совета РСФСР.
**23.00.** Вести.
**23.15.** «Пятое колесо».

## Театр

**27 — 28 ИЮНЯ**
Начало в 19.00

ТЕАТР ОПЕРЫ И БАЛЕТА
**«Князь Игорь».** Завтра — **«Весна священная», «Фестиваль цветов в Чинзано».**

**БЕЛГОСФИЛАРМОНИЯ**
(зал камерной музыки)
Завтра — ОРГАННАЯ МУЗЫКА. **Р. Каменщикова.**

## Астрономический календарь — 27.06.

*ВОСХОД И ЗАХОД СОЛНЦА: Минск — 4.38, 21.45; Витебск — 4.20, 21.44; Могилев — 4.28, 21.34; Гомель — 4.35, 21.22; Гродно — 4.56, 21.59; Брест — 5.05, 21.50.*

*ДОЛГОТА ДНЯ В МИНСКЕ — 17 часов 07 минут.*

*ПОЛНОЛУНИЕ — 6 часов 59 минут.*

## Погода

Сегодня днем по республике ожидается теплая погода. В северо-западных районах пройдут грозовые дожди, температура воздуха: в Гродно — 22—24, Витебске — 23—25, Минске — 24—26, Могилеве и Бресте — 25—27, Гомеле — 26—28 градусов тепла.




НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў, цытат, эканамічных даных, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, калі ў матэрыялах змешчаны даныя, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.

Лісты чытачоў друкуюцца на мове арыгіналаў.

Рэдакцыя «НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ» прымае заказы на змяшчэнне аб'яў, рэкламы. Даведкі часова па тэлефоне 29-66-59.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220010, Мінск, Дом урада, пакой 369, тэл. 29-65-50.

ИНДЕКС 63868.
Выходит ежедневно, кроме воскресенья и понедельника, 250 раз в году.
Тираж 300 тыс. экз.
Подписана в печать в 19.10.
Отпечатана в ордена Трудового Красного Знамени типографии издательства ЦК КПБ.
Способ печати — офсетный, формат А-2.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ.